# ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Люты-2, 2015

## У НУМАРЫ:










НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ
Пастаянная камісія па адукацыі,
культуры і навуцы
220010, г. Мінск, Дом Урада,
тэл./факс (017) 222-65-45, факс (017) 327-37-84
E-mail: aduk@house.gov.by

НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ПАЛАТА ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ
Постоянная комиссия по образованию,
культуре и науке
220010, г. Минск, Дом Правительства,
тел./факс (017) 222-65-45, факс (017) 327-37-84
E-mail: aduk@house.gov.by

6 лютага 2015 г. № 20-06/21
на № ______ от ______

246012, г. Гомель,

Случаку І.У.

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

По даручэнні Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь У.П.Андрэйчанкі ў Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры і навуцы разгледжаны Ваш зварот па пытанні аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь ад 9 студзеня 2002 г. № 90-З "Аб абароне правоў спажыўцоў". Ваша прапанова патрабуе ўсебаковай прапрацоўкі і шырокага вывучэння як сярод спажыўцоў, так і сярод вытворцаў.

Трэба адзначыць, што пункт 9 артыкула 7 "Інфармацыя аб таварах (работах, паслугах) вызначае, што інфармацыю аб таварах вытворца абавязаны давесці да ведама спажыўца на беларускай або на рускай мове, што адпавядае артыкулу 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Інфармацыя аб таварах (работах, паслугах) у абавязковым парадку павінна ўтрымоўваць не менш за 14 звестак аб тавары, а таксама аб складзе харчовых прадуктаў на ўпакоўцы, што ў сваю чаргу патрабуе вывучэння тэхнічных і тэхналагічных магчымасцей абсталявання па выпуску ўпакоўкі, магчымасці чытання нанесеных тэкстаў і фінансавых магчымасцей саміх вытворцаў, а самае галоўнае — любое павышэнне кошту можа выклікаць незадавальненне многіх катэгорый грамадзян.

Адначасова паведамляем, што ў адпаведнасці з Правіламі падрыхтоўкі праектаў нарматыўных прававых актаў, зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 11 жніўня 2003 г. № 359 "О мерах по совершенствованию нормотворческой деятельности", падрыхтоўка законапраектаў ажыццяўляецца пасля іх уключэння ў штогадовы план, які зацвярджаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Прапановы аб падрыхтоўцы законапраектаў на наступны каляндарны год могуць накіроўвацца ў Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых

даследаванняў Рэспублікі Беларусь да 1 верасня. Нацыянальным цэнтрам заканадаўства і прававых даследаванняў Рэспублікі Беларусь пры распрацоўцы праекта плана разглядаюцца ў тым ліку і прапановы, якія паступілі ад навуковых устаноў, грамадскіх аб'яднанняў і грамадзян. Грамадзяне маюць права самастойна рэалізоўваць права заканадаўчай ініцыятывы ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "О порядке реализации права законодательной инициативы гражданами Республики Беларусь".

У выпадку ўнясення адным з суб'ектаў права заканадаўчай ініцыятывы ў Палату прадстаўнікоў адпаведнага законапраекта ён будзе разгледжаны ў парадку, прадугледжаным заканадаўствам.

Намеснік старшыні камісіі Н.Г.Кучынская

Гамеза 222 32 81

НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**ДЭПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
**ДЕПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ

23.01.2015 № Исх 02

на № ______

Случак Ігар Уладзіміравіч

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

Ваш ліст адносна ўнясення змяненняў у дзяржаўныя заканадаўчыя акты ў частцы прадстаўлення інфармацыі аб тавары на дзвюх мовах беларускай і рускай , разгледжаны ў аддзеле гандлю і паслуг Баранавіцкага гарвыканкама.

Улічваючы значны аб'ём інфармацыі, неабходнай давесьці да спажыўца, вельмі абмежаваны памер «цэннікаў» і неабходнасць захавання памеру шрыфта, згодна са стандартам, не дазваляе прадставіць усю інфармацыю на прапанаваны да рэалізацыі тавар на дзвюх мовах.

У сувязі з тым, што ў цяперашні час у насельніцтва руская мова больш запатрабавана, інфармацыя даведзеная да спажыўца менавіта на рускай мове.

Зваротаў, скаргаў ад жыхароў і гасцей горада ў адрас гарвыканкама па гэтым пытанні не паступала.

Разам з тым, улічваючы Вашу прапанова мяркую магчымым дадзенае пытанне разгледзець вытворцам аб размяшчэнні інфармацыі аб тавары на рускай і беларускай мовах на суправаджальных дакументах, гэта значыць у тэхнічным пашпарце,
інструкцыі, упаковачнай скрынцы, ўкладышах і інш.

Ўнясенне змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб абароне правоў спажыўцоў» лічу немэтазгодным.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў
Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь — Сцяцко А.М.

M&S MEDIA

Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17,
рэдакцыя "Справаводства па-Беларуску"

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html
**Архіў УКантакце:** http://vk.com/docs?oid=-19441275
*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vk.com:*** spravavodstva_pa_belarusku
***facebook.com:*** spravavodstva

M&S MEDIA